*Сёння "Народная воля" пускае ў першае плаванне яшчэ адзін "параходзік" — інфармацыйна-забаўляльную старонку "Ура, адпачынак!". Ведаем, што летам інфармацыя падобнага кшталту карыстаецца вялікім попытам у самых розных людзей. Абяцаем знаходзіць для вас, прыхільнікі "Народнай волі", усё самае цікавае і самае карыснае.*

*Пры стварэнні паласы "Ура, адпачынак!" спадзяемся і на вашу пошту, паважаныя чытачы! Пішыце нам, расказвайце свае гісторыі, задавайце пытанні.*

*І яшчэ: безумоўна, мы з хлебам-соллю чакаем у "...адпачынку" рэкламадаўцаў. Тых, хто размесціць сваю рэкламу ў першых трох выпусках "...адпачынку", чакаюць значныя скідкі.*

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

ИНТЕР-ВОЯЖ

## Эпидемия SARS идет на убыль

Всемирная организация здравоохранения (ВОЗ) вычеркнула Филиппины из списка стран, в которых распространяется атипичная пневмония. Такое решение основано на декларации филиппинского правительства о том, что новых случаев заболевания не зафиксировано в течение 20 дней. Днем раньше на проходившем в Женеве совещании по проблеме SARS эксперты ВОЗ пришли к выводу, что эпидемия атипичной пневмонии в большинстве ее очагов близится к концу. Это относится и к Китаю: участники совещания дали высокую оценку мерам китайских властей по борьбе со смертельным недугом.

## Названа цена вертолетного такси из Симферополя

Новый вид услуг — перелет на вертолете из Симферополя в Ялту — предложило Крымское государственное авиационное предприятие "Универсал-Авиа". Расстояние в 100 км от Симферополя до Ялты отныне можно преодолеть за 30 минут на пассажирском вертолете Ми-8, который берет на борт 20 человек.

Один билет будет стоить около 37 долларов.

## В Крыму придумали новую экстрим-услугу

Пещерный город Чуфут-Кале планируется включить в один из маршрутов экстремального туризма в Крыму. Об этом украинскому агентству "Контекст-медиа" сообщил заместитель министра культуры Крыма Исмет Заатов. По словам И. Заатова, в настоящее время в Крыму рассматривается ряд оригинальных программ по развитию туризма, в том числе экстремального. Один из предлагаемых туристических маршрутов с элементами экстрима проходит через знаменитое средневековое укрепление Чуфут-Кале, где туристов-экстремалов ожидает "прыжок в пропасть в мешке". При этом заместитель министра подчеркнул, что если маршрут утвердят, то прыгать в пропасть туристы будут только по желанию.

## В Анапе появятся рикши



Новый курортный сезон в Анапе подарит жителям и гостям приморского города необычный вид передвижения — велотележку. А вскоре и по краснодарским набережным можно будет проехаться впереди велосипеда. Идея новшества исходит из Анапы, а ее реализация связана с решением проблемы летней занятости студентов. Прокомментировал это событие руководитель краевой молодежной биржи труда Владимир Платонов:

— Когда речь заходит о временной работе для молодежи, обычно оказывается, что многие ниши уже заняты. Появление новой рабочей силы связано с борьбой за перераспределение на рынке труда. Можно, конечно, вручить желающим подработать летом фирменные кепки студотрядов и поставить квас продавать. Но интереснее поискать — или организовать — незанятые ниши. Так мы и поступили.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Наталля МАКЕЙ:*

# «Адпачынак — гэта не раскоша, а неабходнасць»

*Надышоў сезон адпачынкаў. З першых дзён чэрвеня амаль кожны з нас ліхаманкава перагортвае старонкі шматлікіх рэкламных выданняў, спрабуючы выбраць з соцень прапаноў сапраўды найлепшае месца, дзе можна адпачыць, аднавіць сілы, падлячыцца. Вядомая і паважаная на рынку медыцынскіх паслуг фірма* ***"ЛОДЭ"*** *чатыры гады таму адкрыла санаторна-курортны аддзел "Лодэ-С".*

*Менеджэр аддзела абаяльная* ***Наталля МАКЕЙ*** *адказвае сёння на пытанні карэспандэнта "Народнай волі".*





*Наталля Макей (злева). У санаторным комплексе "Магістральны", г.Баранавічы.*

**— Наталля, на рынку турыстычных паслуг зараз, як кажуць, "воз и маленькая тележка" кампаній. Ці можа "Лодэ-С" прапанаваць спажыўцам нешта незвычайнае, што не могуць прапанаваць іншыя?**

— Турыстычных фірм сапраўды зашмат, я з вамі згодна. Але наш аддзел адрозніваецца вузкай спецыялізацыяй. Адным з асноўных напрамкаў нашай актыўнасці з'яўляецца санаторна-курортнае лячэнне. Мы прапануем вялікі выбар найлепшых здраўніц, якія знаходзяцца як у нашай сінявокай Беларусі, так і ў сусветнавядомых курортах за межамі краіны. Напрыклад, Карлавы Вары... Кожнаму кліенту мы імкнемся забяспечыць індывідуальны падыход. Вы, напэўна, ведаеце, што дэвіз "Лодэ" — "гарантыя якасці". І яшчэ. Мы прапануем толькі тыя санаторыі і дамы адпачынку, якія наведалі нашы супрацоўнікі альбо партнёры і якія не выклікаюць сумненняў.

**— Не сакрэт, што эканамічнае становішча многіх нашых грамадзян сёння пакідае жадаць лепшага. Але адпачыць хочацца ўсім. Які адпачынак Вы параіце для людзей з сярэднімі даходамі і ніжэй сярэдняга?**

— Гэта перш за ўсё дамы адпачынку і пансіянаты Беларусі. Можна адносна танна правесці свой адпачынак і на курортах Азоўскага і Чорнага мораў — у Крыму, Балгарыі альбо Румыніі.

**— "Лодэ" — фірма, якая ўсё ж такі спецыялізуецца на медыцынскіх паслугах. Раскажыце, калі ласка, падрабязней, наколькі актыўна вы супрацоўнічаеце з крымскімі санаторыямі, з падобнымі ўстановамі ў Беларусі, у іншых краінах?**

— Па Беларусі мы прапануем каля 20 санаторыяў. Асноўны іх профіль — гэта лячэнне сардэчна-сасудзістых захворванняў, хвароб органаў стрававання, апорна-рухальнага апарату, нервовай сістэмы і органаў дыхання. Лячэбна-дыягнастычная база гэтых санаторыяў дазваляе праводзіць лячэнне на самым сучасным узроўні. Шырокую вядомасць пачынаюць атрымліваць беларускія мінеральныя воды. Многія з іх, напрыклад, у санаторыях "Нарач", "Летцы", "Буг" не саступаюць такім вядомым, як "Трускавецкая". У некаторых з іх прымяняюць старажытныя метады: гразелячэнне, нетрадыцыйную тэрапію. У санаторыях "Летцы" і "Буг" адкрыты аддзяленні для рэабілітацыі хворых, якія перанеслі інфаркт міякарда. У гэтых санаторыях прымяняюцца кліматалячэнне, лячэбная фізкультура, механатэрапія, спелеатэрапія, эндабранхіяльныя залівкі, фізіятэрапія і гэтак далей.

Што тычыцца, напрыклад, Чэхіі, то нашы кліенты могуць паехаць у Марыянскія Лазне, Францішкавы Лазне і сусветнавядомыя Карлавы Вары. У Карлавых Варах лечаць перш за ўсё захворванні органаў стрававання і парушэнні абмену рэчываў, хваробы печані, жоўцевага пухіра, ішэмічнай хваробы сэрца, атэрасклероза, інфаркта міякарда, дыябета. Але адпачынак у Чэхіі, натуральна, даражэй, чым у Беларусі. Таму дазволіць сабе яго можа не кожны.

Прамежкавае становішча, што тычыцца коштаў на пуцёўкі, займаюць унікальныя бальнеалагічныя курорты Прыкарпацця на Украіне — Трускавец і Моршын. Яны вабяць не толькі сваімі коштамі на пуцёўкі (прыблізна 9—10 у.а. за суткі, уключаючы лячэнне і харчаванне), але і перш за ўсё унікальнай па сваім хімічным складзе мінеральнай вадой, а таксама залежамі "горнага воску" — азакерыту, які выкарыстоўваюць у гразелячэнні. У Трускаўцы мы прапануем дзевяць санаторыяў, дзе вельмі паспяхова лечаць захворванні нырак, парушэнні абмену рэчываў і захворванні органаў стрававання.

**— А ў Крыму?**

— Гаворачы пра Крым, нельга не сказаць пра яго клімат. Мяккае горнае паветра, вінаград, лекавыя гразі, купанне ў моры і ласкавае паўднёвае сонца саграюць, лечаць, мацуюць арганізм. Мы маем магчымасць прапанаваць адпачынак і лячэнне на ўсім узбярэжжы Крыма — прычым як у недарагіх пансіянатах і базах адпачынку, так і ў самых элітных гатэлях і санаторыях.

**— Дзе, на Ваш погляд, лячэнне самае эфектыўнае?**

— Яшчэ раз паўтаруся, што кожны санаторый, які мы прапануем для адпачынку і лячэння, мы ведаем. І ведаем, што ён добры. Узровень абслугоўвання ў іх высокі. Што тычыцца таго, дзе лячэнне найбольш эфектыўнае, то перш за ўсё трэба ведаць профіль захворвання. На кожную хваробу мы можам прапанаваць шэраг лячэбных устаноў, дзе можна эфектыўна падлячыцца.

**— Ці даяце вы папярэднюю медыцынскую кансультацыю, перш чым ваш кліент вырашыць, дзе ён будзе адпачываць і лячыцца?**

— Так, безумоўна. Высокакваліфікаваны, вопытны курарталаг бясплатна кансультуе ў фірме "Лодэ" па пытаннях аздараўлення і лячэння хвароб любога профілю. Акрамя таго менеджэры нашага аддзела маюць медыцынскую адукацыю.

**— Ці прадастаўляе фірма "Лодэ" скідкі? Калі так, то распавядзіце пра іх падрабязней...**

— Для пастаянных кліентаў "Лодэ" скідкі складаюць да 10% ад кошту пуцёўкі. Я вельмі рада вам паведаміць, што ў нас такіх кліентаў ужо даволі шмат. Мы ўдзячны ім за гэта, і робім усё магчымае, каб палепшыць якасць нашых паслуг.

**— І ў заканчэнні, Наталля, раскажыце нашым чытачам які-небудзь анекдот, звязаны з адпачынкам...**

— Мужчына папрасіў ва Усявышняга камандзіроўку ў рай. Усявышні задаволіў просьбу чалавека. У раю было ўсё казачна: жанчыны, віно, пацехі. Мужчыне спадабалася, і ён вырашыў звярнуцца да Усявышняга з просьбай пакінуць яго там назаўсёды. І гэтая просьба была задаволена. Але на гэты раз аматара пацех і жанчын чакалі чэрці і катлы, у якіх яго збіраліся зварыць.

— Падман! Гэта ж не тое, што я хацеў! Гэта зусім не тое, што я бачыў падчас трохдзённай камандзіроўкі ў рай! — залямантаваў падмануты "заказчык".

— А ты не блытай, — спакойна адказаў Усявышні, — турызм з эміграцыяй.

**— Дзякуй, Наталля, Вам за цікавую размову. Жадаю Вам і ўсім Вашым кліентам цудоўнага здароўя!**

САНАТОРНО-КУРОРТНОЕ ЛЕЧЕНИЕ
Трускавец, Моршин, Испания, Хорватия, Литва, Карловы вары
Консультации опытного курортолога БЕСПЛАТНО
БЕЛАРУСЬ: отдых и лечение
24 санатория и дома отдыха
Детский отдых на Нарочи
БОЛГАРИЯ, ЕГИПЕТ, ТУРЦИЯ
ЭКСКУРСИОННЫЕ ТУРЫ ПО ЕВРОПЕ
АВТОБУСНЫЕ БИЛЕТЫ ПО ЕВРОПЕ
АВИАБИЛЕТЫ
ВИЗЫ: ШЕНГЕН ПРИБАЛТИКА
ЛОДЭ-С
г. Минск, ул. Гикало, 1 (Слева от ЦУМа)
Тел./факс 232-92-02 239-62-91
tur@lode.by
Лиц. №439 от 24.05.2001 по 24.05.2006 МС и ТРБ

БЛІЦ-АПЫТАННЕ

# А я ў космас бы злятаў!

***— Як Вы звычайна праводзіце свой адпачынак?***
***— Куды Вы паедзеце адпачываць у гэтым годзе?***
***— Уявіце сабе сітуацыю, што ў Вас ёсць адзін мільён віртуальных долараў і адзін вольны месяц. На якую вандроўку Вы асмеліцеся?***

*Такія пытанні мы задалі пяці вядомым і не вельмі вядомым асобам.*

***Франк ЛАНГСДОРФ,*** ***генеральны прадстаўнік авіякампаніі «Люфтганза» ў Рэспубліцы Беларусь:***

### «Толькі атыповая пнеўманія можа змяніць нашы планы»

Разам з сям'ёй я стараюся з'ехаць у адпачынак у якое-небудзь цёплае мястэчка — напрыклад, у Паўднёва-Усходнюю Азію. Перад прыездам у Мінск я працаваў у маскоўскім офісе "Люфтганзы". І таму я добра ведаю, якая ў Расіі і Беларусі доўгая і халодная зіма. Калі я бяру кароткі адпачынак зімой, то магу злятаць, напрыклад, у Таіланд. Мінулым летам мы ездзілі ў Іспанію. Летам там даволі спякотна і адначасова камфортна. І калі едзеш у Еўропу, не трэба пераадольваць значныя адлегласці. Што немалаважна. Хачу яшчэ дадаць, што вандрую я толькі пры дапамозе авіякампаніі "Люфтганза". Выключэнне раблю толькі ў выпадку, калі наша кампанія не абслугоўвае той ці іншы маршрут.

Наконт гэтага года мы з жонкай яшчэ дакладна не вырашылі, куды паехаць. Магчыма, гэта будзе востраў Балі на поўдні Азіі. Я ведаю, што ў ліпені і жніўні там цудоўнае надвор'е. Мы можам змяніць наша рашэнне па прычыне атыповай пнеўманіі, якая мае месца ў тым рэгіёне. У гэтым выпадку наша сям'я будзе адпачываць альбо ў Іспаніі, альбо ў Партугаліі.

Мільён долараў?!. Я б тады паехаў на поўдзень — на астравы Таіці, Бора-Бора і Марэа. Я быў там 28 гадоў таму. І гэта было, мусіць, самае цікавае падарожжа ў маім жыцці. Але, на жаль, не самае таннае. За ўсё на гэтых астравах трэба выкласці вялікія грошы. Тым не менш гэта абсалютна фантастычны рэгіён для турыстаў!

***Ігар ЛАЗАРЧУК,*** ***кіраўнік Беларускага цэнтра ў Бельгіі:***

### «А я ў космас бы злятаў!»

Падчас адпачынку я гуляю па старажытным горадзе Антверпене, у якім ёсць шмат прыгожых і найцікавейшых мясцін. За тыя гады, што я жыву тут, у Бельгіі, я яшчэ не ўсе такія мясціны ведаю.

Гэтым летам я планую з'ездзіць у Лондан да айца Аляксандра Надсана. У Лондане працуе даволі вялікі цэнтр беларушчыны ў Заходняй Еўропе, ёсць гістарычная беларуская бібліятэка. Акрамя спраў, канешне, паспрабую атрымаць асалоду ад самой Англіі і добра адпачыць. Лондан — вельмі цікавы горад, і там ёсць што паглядзець.

А калі б у мяне быў мільён долараў, я ў космас злятаў бы. І быў бы вельмі шчаслівы паглядзець на нашу Зямлю з космасу.

***Павел ХОЛАД,*** ***перакладчык:***

### «Мне хочацца слухаць цішыню»

Падчас адпачынку звычайна едзем да вады. Чаму да вады? Таму што летам мне хочацца, каб было спякотна, а калі сапраўды спякотна, то хочацца "абмакнуцца". Калі б рэсурсы дазвалялі, я ўзяў бы жонку і наша немаўля і адчаліў бы да дальніх мораў. А паколькі вялікіх грошай няма, то паеду куды-небудзь у Беларусі. У нас хапае ўтульных месцаў для адпачынку. Напрыклад, Нарач.

У гэтым годзе хацелася б наведаць гэта цудоўнае возера Беларусі, але лепш — Палангу на Балтыцы. У Крым мяне не цягне, таму што там процьма народу. А мне і маёй сям'і хочацца слухаць цішыню.

Калі б на мяне зваліўся мільён долараў, набыў бы як мінімум тры білеты ў адзін бок. Куды-небудзь як мага далей. А яшчэ лепш, каб і мае сябры згадзіліся наогул адсюль з'ехаць...

***Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ,*** ***галоўны рэдактар газеты "Салідарнасць":***

### «Буду «курыць бамбук»!»

Кажучы шчыра, я не бяру, як гэта прынята, адпачынак на адзін месяц. Звычайна з'язджаю з Мінска на тыдзень, максімум на два. Аддаю перавагу нашым цудоўным беларускім азёрам, а калі ёсць магчымасць, магу з'ездзіць і за мяжу.

У гэтым годзе з улікам таго, што я раблю новую газету "Салідарнасць", для мяне будзе вельмі праблематычна кудысьці знікнуць нават на тыдзень. Але, магчыма, усё ж такі я знайду час і наведаю Прыбалтыку. У мяне там ёсць сябры. Хутчэй за ўсё я не буду ствараць ім нязручнасці, а набуду пуцёўку і буду там, як кажуць, "курыць бамбук".

Калі б у мяне быў мільён долараў, я, мусіць, падаўся б у марскі круіз. Напрыклад, па скандынаўскіх ф'ёрдах ці па Карыбскіх астравах.

***Мікалай СТАТКЕВІЧ,*** ***старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада»:***

### «Магчыма, пажыву ў бацькі на лецішчы»

Геаграфічныя каардынаты майго адпачынку залежаць ад таго, ці ёсць у мяне падпіска аб нявыездзе. У 1999 годзе, напрыклад, я наведаў свайго брата ў Крыму. А так звычайна лета праводжу ў Беларусі. Езджу да цешчы альбо да свайго бацькі на лецішча. Часам наведваю сяброў, адпачываем дзе-небудзь каля возера.

На гэты год у мяне пакуль няма ніякіх планаў. За межы Беларусі выехаць я хутчэй за ўсё не здолею. Калі будзе вольны тыдзень, пажыву ў бацькі на лецішчы альбо ў каго-небудзь з аднапартыйцаў, напрыклад, на Браслаўскіх азёрах. Але, баюся, што гэтым летам прыйдзецца займацца падрыхтоўкай да якога-небудзь рэферэндуму, а не адпачываць.

Мільён долараў?.. Гэта занадта гіпатэтычны варыянт. Але ж, я думаю, што нават мільён долараў значна не паўплываў бы на мае звычкі. Для мяне адпачынак — гэта сонца, вада. Магчыма, яшчэ горы... І, канешне, добрыя кніжкі.



*Вот и лето пришло...*

## Бразильский карнавал пройдет этим летом в Киеве

26 июля в Киеве состоится феерическое и экзотическое зрелище — бразильский карнавал. Об этом сообщили в пресс-службе Киевской городской администрации. Как отметил представитель компании Pickard & Co.Ltd, проведение карнавала в столице Украины станет историческим событием, поскольку ни в Восточной Европе, ни в Европе вообще бразильские карнавалы до сих пор не проводились. Для фестиваля из Лиссабона будет доставлена специальная автоплатформа, на которой свое мастерство киевлянам продемонстрируют суперзвезды бразильского карнавала. В карнавале примут участие также десятки киевских творческих коллективов.

**Матэрыялы паласы падрыхтаваў Алесь СІЛІЧ.**

УЛЫБНИТЕСЬ...

## Эх, охотничек!

Мужик возвращается с охоты довольный. Жена:

— Как охота?

— Класс! Ежей целую гору настрелял!

— Ты что, совсем обалдел? Зачем нам ежи!

— Ну как же! Тебе — на воротник, теще — на стельки.

***

Муж возвращается домой с охоты, звонит жене с вокзала:

— Маша, это я. Еду домой.

— Как охота, милый?

— Все нормально, месяц не будем покупать мяса.

— Ты убил лося?

— Нет, пропил зарплату.

***

Возвращается муж с охоты страшно злой. Жена:

— Что случилось?

— До чего же лиса коварное животное! Вижу лису, стреляю, лиса падает. Иду к ней, лиса лежит. Подхожу, глядь, а это — собака!

***

Один охотник делится с другим опытом, как избавиться от комаров во время охоты:

— Хорошенько натритесь добрым вином и затем посыпьте себя мелким песком. Комары сядут, напьются вина и начнут бросать камни друг в друга.

***

Сидят два охотника. Один — другому:

— Я теперь на лису с хомячком хожу охотиться.

— А это как?

— Даешь хомячку бутылку водки, засовываешь его в лисью нору, а когда они через 15 минут выходят покурить...

***

Корреспондент задает вопрос охотнику-любителю:

— И давно вы охотитесь на слонов?

— Нет, недавно. Я приехал сюда охотиться на бабочек, но потерял очки...

***

Охотник идет по лесу, ему навстречу — кабан. Он из обоих стволов — ба-бах! Все в дыму, охотник думает: попал или не попал? Дым рассеивается, кабан стоит целехонек и говорит:

— Ну, мужик, ты попал...

***

Сидит парень с удочкой на берегу пруда. К нему подходит рыбинспектор и пытается его оштрафовать.

— Здесь запрещено ловить рыбу!

— Я не ловлю рыбу!

— А что вы делаете с удочкой в руках?

Парень достает удочку из воды и говорит:

— Видите, я просто купаю червячка.

***

Рано утром на берегу речки сидит рыбак. Мимо проходит мужик.

— Как сегодня вода?

— Изумительная, рыба вообще не хочет из нее вылезать.

## Дадзім цягу на цягніку

*Кошты на праезд у найбольш папулярных курортных накірунках на цягніку Беларускай чыгункі са ст. "Мінск-Пасажырскі" (у беларускіх рублях):*

| СТАНЦЫЯ ПРЫЗНАЧЭННЯ, НУМАРЫ ЦЯГНІКОЎ | ПАСАЖЫРСКІ ПОЕЗД | | | ХУТКІ ПОЕЗД | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агульны | Плацкартны | Купэ | Плацкартны | Купэ | СВ |
| Адлер, 38 | - | - | - | 75.780 | 118.820 | - |
| Адлер, 178 | - | 64.240 | 101.170 | - | - | 201.860 |
| Кіеў | - | - | - | 23.170 | 36.120 | 71.330 |
| Сімферопаль, 182, 100 | 28.700 | 40.710 | 63.890 | 45.470 | 71.050 | - |
| Рыга | 33.560 | 66.240 | 84.440 | - | - | - |
| Санкт-Пецярбург, 190, 52 | - | 29.830 | 46.930 | 39.760 | 64.420 | 122.660 |
| Львоў, 271 | - | 22.380 | 34.940 | - | - | - |
| Днепрапятроўск, 172 | 22.360 | 31.400 | 49.120 | - | - | - |
| Калінінград, 285, 29 | 21.470 | 28.080 | 43.430 | 40.100 | 62.300 | 112.380 |
| Кіславодск | - | - | - | 56.910 | 89.140 | - |
| Кішынёў | - | - | - | 30.790 | 47.780 | - |
| Марыупаль | - | 36.450 | 57.150 | - | - | - |
| Мінеральныя Воды, 178, 146 | - | 65.310 | 102.070 | 54.680 | 85.520 | - |
| Адэса | - | - | - | 37.000 | 57.740 | - |
| Растоў-на-Доне, 38, 178 | - | 49.520 | 77.740 | 60.320 | 94.200 | 154.930 |

ГАСТРОЛИ

*Нина УСАТОВА:*

# «Для меня немыслимо жить за решеткой...»

*20 июня театральный проект "Виртуозы сцены" на сцене столичного Дома офицеров представляет комедию Российского государственного академического Большого Драматического театра им.Г.В.Товстоногова **"Семейный портрет посторонним"**. В главной роли — народная артистка России **Нина Усатова.***

*"Народная воля" предлагает одно из последних интервью Усатовой, опубликованное в российской прессе.*

Нина Усатова не дает рецептов — ни кулинарных, ни жизненных. Не хочет брать на себя ответственность подсказывать другим, как нужно жить. В начале спектакля прозвучала просьба отключить сотовые телефоны и пейджеры. Как всегда, отдельные "театралы" не отключили.

— Это ужасно, — расстраивалась Нина Николаевна, когда мы беседовали в гримерке. — Это такое неуважение к актерам! Мы играем, плачем настоящими слезами, сердце рвем — и тут звонки.

— Знаете, почему начали делать такие объявления? — замечает народная артистка России Зинаида Шарко *(в гримерной, где идет наше интервью, ей накладывают грим).* — В Ленкоме была история: играли "Чайку", шел монолог Нины Заречной, и вдруг в секундной паузе, возникшей в монологе, в зале раздается: *"Скоро эта х...ня закончится, и я тебе перезвоню..."*.

**— Нина Николаевна, для вас слово *провинциал* в какой оттенок окрашено?**

— Провинция — это наша суть. В столице жизнь с другой скоростью крутится, принимает формы, которые не свойственны провинции. А тут еще живут по совести и чести, помнят и уважают стариков. Но жизнь в провинции настолько тяжела и убога! Я это хорошо знаю. Моя родня так живет. Для них слово автоответчик — это что-то ругательное. Люди, как моя мама, всю жизнь на огороде вкалывают. В лучшем случае успевают по телевизору посмотреть бразильские и мексиканские сериалы о какой-то хорошей, счастливой жизни, вот единственная их отдушина.

Недавно была в Кургане (здесь я оканчивала десятилетку) и не узнала своих одноклассниц. Может, потому что я постоянно бегаю, старость меня не догоняет, а они выглядят от этой жизни лет на 25 старше. Муж-пьяница, тяжелый труд, вечная нехватка денег...

**— Почему девочке, рожденной на глухой станции Малиновое озеро, захотелось стать актрисой?**

— Естественно, на нашем полустанке не было театра, фильмы крутили только по праздникам, мы садились на полу и смотрели "Чистое небо", "Кубанские казаки", "Воскресение". Мне захотелось так же выражать свои чувства, как это делали актрисы. Я была очень застенчивая, но поняла: на экране можно выплеснуть все, что накипело.

Кстати, ведь не так много фильмов тогда снималось — восемь-девять в год на всех киностудиях страны, но фильмы были более качественные. Вот "Война и мир" Сергея Бондарчука — можно не читать Толстого, только фильм посмотреть, потому что Бондарчук снимал не по мотивам, как сейчас делают многие режиссеры, он от текста ни на слово не отступил.

**— Вы пять раз поступали в Театральное училище имени Щукина...**

— Все известные киноартисты были выпускниками этого училища — Миронов, Гундарева, Чурсина, поэтому я мечтала учиться именно там. Проваливалась на экзаменах и уезжала домой, потом с подружками осталась в небольшом городке под Москвой, работала на фабрике, ткала платки. А каждый вечер у меня был занят: спектакли, музеи, концерты — этим я жила и дышала. Я посмотрела тогда все у Эфроса, Любимова, Гончарова. Поступила в конце концов в Щукинское, но на режиссерский факультет. Впоследствии это помогло мне в разборе своих ролей, кроме того, я знаю, как справиться с провальными сценами в спектакле. Научилась рвать их ритмически. Своей энергией, словом, жестом заставить зрителя встрепенуться.

**— Возраст для актрисы очень важен?**

— Нисколько. Я в 28 лет играла бабку в "Беде" без грима, и мне верили!

**— Нина Николаевна, как у Ввас складываются отношения с сыном? У него сейчас трудный возраст — 14 лет.**

— Мне за него всегда тревожно. Конечно, он дитя своего поколения. Дышит тем же воздухом, которым дышат его друзья. Помню, у меня были такие противоречия с родителями. Мама спрашивала: "Это куда ты побежала в капрончике?" На улице минус 35 градусов, капрон к ногам примерзает. Позже, когда коленки захрустели, я сказала себе: "Мама, мама, как же ты была права". А у нас с сыном все похлеще. Это то оторванное поколение перестроечных детей, которое родилось в безвременье. Меня шокирует их блатной жаргон, когда "блин" через каждое слово. Сын отвечает, что иначе не попадет в тусовку. Но иногда удивляет другое. Видишь — шпана шпаной, а поступает как человек. Значит, глубоко, но есть что-то в молодых чистое и красивое.

Но в жизни нашей грязи, к сожалению, больше. Мы уже привыкли: когда тебя пихают кулаком в живот в метро и не извиняются — это норма, а когда что-то человеческое проявляется в людях — это воспринимается как нонсенс. Однажды вышла я из самолета, вдруг парень красивый, хорошо одетый дергает у меня сумки, я в ужасе, а он: "Куда только мужики смотрят". И донес вещи. У меня аж спина покраснела. Я прямо влюбилась в него!

...Почему сейчас детям мало говорят о добром? На экране много агрессии, того, что нельзя смотреть не только детям, но и взрослым. Наше кино слишком увлеклось боевиками. А людям хочется фильмов вроде "Кубанских казаков", чтобы можно было посмеяться и отдохнуть.

Я так думаю: надо внутри себя выстроить храм, навести порядок в душе, потом в квартире, в подъезде и дальше в стране. А то ведь иногда уже боишься красоты, хочется что-то сделать, а опасаешься. У всех моих соседей по даче — решетки, чтобы не залезли за последней алюминиевой ложкой. А для меня немыслимо жить за решеткой...

**Татьяна НАГОРНАЯ.**



*Аляксей*
*МАРАЧКІН*

## Вершы



***

*Ужо не пачую:*
*— Ляксейка, ўставай.*
*У школку пара збірацца.*
*Завея і сцюжа*
*За вокнамі кружаць.*
*Чырвоныя яблыкі сняцца.*

***

*Гарадзец, Станулі, Варганы...*
*Як адзежына даўняга строю, —*
*Старажытныя курганы*
*Засталіся ад прашчураў-вояў.*

*Адгукнуцца праз тоўшчу вякоў*
*Дым стажараў, гул стольнага веча.*
*Устрывожаны цокат падкоў,*
*Звон набатны, звон цяжкага меча.*

*Кавалі, Верацеі, Вялец...*
*Коціць воды празрыстая Мнюта.*
*Мчыць па полі ўзмакрэлы ганец,*
*Асыпаецца квеценем рута.*

*Скрыжаванні забытых дарог*
*Параслі хмызняком верасовым.*
*Як настольнік — квяцісты мурог,*
*Цешыць вока узор адмысловы.*

*Курганы... Усяслава шалом*
*Узвышаюць купчастыя сосны.*
*Знітаваных стагоддзяў сувой,*
*Ткуць узорысты летапіс кросны.*

*Навасельцы, Лужкі, Камаі —*
*Майго роду адметная рыска.*
*Баўтрамеі, Лугі, Барсукі —*
*Нашых продкаў былая калыска.*

***

*Хаваю прароцтва*
*ў сабе,*
*Люстэрка утойвае*
*цемру...*
*Не спраўдзіцца заўтра.*
*На дне*
*Не скарбы — засохлае*
*зерне.*
*Патрэсканай столі*
*прамень.*
*Між пальцаў дрыжыць*
*павуцінне.*
*Праз шчыліну свеціцца*
*дзень,*
*Ператрасае начынне.*

***

*Заціша перад навальніцай.*
*Заціша перад перуном.*
*Заціша... Хмары... Папялішча.*
*Яшчэ жывём. Не ўдарыў гром.*
*Яшчэ збіраемся, плануем,*
*Кахаем, любім і смуткуем.*
*Нанова хочацца пачаць.*
*Заціша — тайная пячаць.*

***

*Як нічога не ляснецца,*
*размалюю я прасніцу.*
*Не хапае паперы —*
*размалюю я дзверы.*
*А на плот, не на плыт,*
*Неба фарбы — блакіт.*
*Квецень. Сонца і хмара.*
*Унізе подпіс мой —*
*MARA.*

***

*Пярунавы стрэлы*
*Над пушчай грымелі.*
*Жыве Беларусь,*
*Покуль мы не знямелі.*
*Жыве!*
*Покуль з намі*
*Адчай і адвага.*
*І будзе да нас,*
*Як да іншых павага.*
*Жыве!*
*Хай паўторыцца,*
*Нібы замова.*
*Жыве Беларусь,*
*Покуль жыць будзе мова.*

СПОРТ

*Сергей БОРОВСКИЙ:*

# «Уезжаю, чтобы обеспечить достойную жизнь»

*Тренер столичного футбольного клуба "Торпедо-МАЗ" Сергей Боровский, в бывшем легендарный футболист минского "Динамо", отправляется зарабатывать себе на хлеб в литовский "Каунас".*

*Корреспондента "Народной воли" заинтересовало, что побудило его покинуть родной клуб.*

— Не хочется, конечно, уезжать, — сказал Боровский, — какими бы заманчивыми ни были предложения. Хочется работать дома, на благо родины. И работал бы, если бы мне в Минске платили столько, сколько предлагают в Литве.

**— На сколько лет подписали контракт.**

— На два года.

**— Задачи стоят немаленькие?**

— Как минимум — пройти в Лигу чемпионов.

**— В свое время Вы тренировали латвийский "Вентспилс" и молдавский "Шериф", но литовский клуб — впервые. Не боитесь, что многие игроки могут вас, мягко говоря, не принять? Новый тренер, новые установки...**

— От этого никуда не уйдешь. Если игрок заключил контракт, то он должен профессионально выполнять свое дело. Тем более что команда возрастная.

**— В вашу бытность главным тренером Национальной сборной по футболу Вас тоже не воспринимали многие старожилы?**

— Ты кого имеешь в виду?

**— Тех же Белькевича, Хацкевича. Последний, кстати, сделал заявление в прессе: Боровскому при встрече даже руки не подам.**

— Ну а как он мне может подавать руку, если я его выгнал из сборной? Вполне обоснованно.

**— За что, если не секрет?**

— Он набрался наглости накануне ответственной игры приехать на базу в Стайки в стельку пьяным, да еще и не один. Я ему так и сказал: "Убирайся, ноги твоей в сборной больше не будет!"

**— А как же насчет воспитания?**

— Может и нужен метод кнута и пряника, но я к этому не привык. Считаю, что между тренером и игроками должно быть взаимопонимание.

**— Вы гнете туда же, куда и Малофеев. Именно он сейчас ищет этого взаимопонимания... А вообще, Сергей Владимирович, Вы бы хотели снова возглавить сборную?**

— Нельзя дважды войти в одну и ту же реку. Хотя, если бы был большой душевный порыв, наверное, согласился бы снова стать у руля сборной.

**Ольга РОМАНЮК.**

11

чэрвеня

**СЕРАДА**

Усх. 4.38 Зах. 21.41
Даўж. дня 17.03
Поўня
14 чэрвеня

**Сёлета спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння А. М. Арлова (1908—1942), беларускага скульптара, удзельніка скульптурнага афармлення Дома ўрада, Дома афіцэраў і інш.**

## Пінчанін стаў чэмпіёнам свету

Выхаванец Брэсцкага вучылішча алімпійскага рэзерву жыхар Пінска Мікалай Патоцкі стаў чэмпіёнам свету, заваяваўшы "золата" на 29-м чэмпіянаце свету па цяжкай атлетыцы сярод юніёраў, які праходзіў з 1 па 7 чэрвеня 2003 года ў Эрмасільё (Мексіка).

Мікалай Патоцкі стаў лепшым у вагавай катэгорыі да 94 кілаграмаў. У суме ён набраў 372,5 кілаграма (рывок — 175 кілаграмаў, штуршок — 197,5 кілаграма). Сярэбраны прызёр адстаў ад пераможцы ўсяго на 2,5 кілаграма. "Бронзу" ў гэтай катэгорыі ўзяў таксама атлет нацыянальнай зборнай Рэспублікі Беларусь Алег Лобан з Бабруйска.

Мікалай Патоцкі трэніруецца пад кіраўніцтвам старшага трэнера зборнай каманды Брэсцкай вобласці Аляксандра Самадаева. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН Аляксандр Самадаеў зазначыў, што першая сур'ёзная перамога атлета прыпала на восень мінулага года. Тады Мікалай Патоцкі ўзяў "срэбра" на чэмпіянаце Еўропы сярод юніёраў. Трэнер спадзяецца, што юніёрскае "золата" — гэта не мяжа магчымасцей таленавітага атлета.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Кубак Стэнлі не прыедзе на Беларусь

Вызначыўся ўладальнік кубка Стэнлі 2003 года. У сёмым матчы фінальнай серыі "Нью-Джэрсі-Дэвілз" перамаглі "Анахайм Майці Дакз" з лікам 3:0.Шайбы ў рашаючай сустрэчы закінулі Рап і двойчы адзначыўся Фрызэн. Такім чынам, лік у фінальнай серыі стаў 4:3 на карысць "д'яблаў" з Нью-Джэрсі.

Шкада, што кубак Стэнлі не прыедзе ў Беларусь. Гэта было б магчыма ў выпадку, калі б "Анахайм Майці Дакз", за які гуляе беларус Руслан Салей, у сёмым матчы перамог сапернікаў.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## А ну, дзяўчаты, на аўтамабіль!

Вызначаны пераможцы аўтамабільных гонак пераследу сярод жанчын-вадзіцеляў "А ну, дзяўчаты!". Мерапрыемства адбылося на карцінгавай трасе "Вікторыя" ў Мінску.

Усе гонкі былі бескантактныя, стартавалі па два аўтамабілі ў розных частках трасы, і ў залік ішоў сумарны час, паказаны ў трох практыкаваннях паўфінальных заездаў. У фінал выйшлі 12 удзельніц. Найлепшы кваліфікацыйны вынік паказала якраз А.Гайдук.

У выніку ўпартай барацьбы ў фінальным заездзе перамогу атрымала Ірына Шляхценка на аўтамабілі "Фальксваген Гольф". Другое месца ў Алены Башмаковай ("Таёта Селіка"), трэці вынік і бронзавы медаль спаборніцтваў у Святланы Кукушкінай ("Таёта Карола").

**Аляксей АРЭШКА.**

## Целы праляжалі ў кватэры больш за тры гады

Больш за тры гады праляжалі целы дзвюх родных сясцёр у аднапакаёвай кватэры аднаго са шматпавярховых дамоў па вуліцы Воінаў-Інтэрнацыяналістаў у Віцебску. На гэтым тыдні яны будуць пахаваныя за кошт дзяржавы.

Як паведаміў БелаПАН следчы пракуратуры Першамайскага раёна Віцебска Раман Шыёнак, абедзве жанчыны 1932 года нараджэння лічыліся без вестак зніклымі з 1999 года. На мінулым тыдні ў абласным цэнтры з'явіўся іх сваяк, па ініцыятыве якога работнікі ЖЭУ і супрацоўнікі Першамайскага РАУС вырашылі праверыць кватэру, дзе пражывала адна з сясцёр.

Пасля таго як адчынілі дзверы, якія, паводле слоў Р.Шыянка, былі ўсе ў павуцінні, у кватэры былі знойдзены "муміфікаваныя целы дзвюх жанчын". Праверкай устаноўлена, што смерць сясцёр насіла негвалтоўны характар. Паводле ацэнак экспертаў, жанчыны памерлі прыкладна напрыканцы 1999 года. Адна з сясцёр — у выніку вострай сардэчна-сасудзістай недастатковасці, прычыну смерці другой устанавіць не ўдалося.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

## Ашуканства з гарантыяй

Як часта сучасныя паслядоўнікі Астапа Бендэра, ажыццяўляючы ўласную афёру па ад'ёме грошай, забываюць святое правіла Вялікага Камбінатара: "Трэба шанаваць Крымінальны кодэкс!".

Няўвага да гэтага правіла разам са сквапнасцю вельмі пашкодзіла правядзенню махлярскай аперацыі, якую задумалі і пачалі здзяйсняць два прайдзісветы ў Віцебску. Прыстойна апрануўшыся, яны наведваліся ў кватэры і, называючы сябе работнікамі тэхнагандлёвага цэнтра "Гарант", які займаецца распаўсюджваннем кабельнага тэлебачання, абяцалі гаспадарам забяспечыць іх шматканальным вяшчаннем. Тут жа госці прапанавалі падпісаць дагавор і заплаціць 5—6 тысяч рублёў авансу.

Даверлівыя жыхары ўскраіны не цікавіліся персанальнымі пасведчаннямі незнаёмцаў і, спадзеючыся, што сапраўды пазбавяцца ад навязлівых і аднастайных беларускіх праграм, без ваганняў аддавалі грошы.

Пасля таго як першы тур махлярскай аперацыі завяршыўся ўдала, аферысты рушылі па новых адрасах, павялічыўшы задатак да 15 тысяч, што, дарэчы, у 5 разоў больш, чым патрабуе пры падпісанні дагавору сапраўдны цэнтр "Гарант". Занадта высокая цана насцярожыла найбольш падазроных гараджан, і яны патэлефанавалі ў міліцыю. Складзены фотаробаты аферыстаў, ідзе іх пошук...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Двайное забойства ў Азёрах

**У лесе недалёка ад вёскі Локна Гродзенскага раёна мясцовы жыхар пад слоем імху знайшоў два трупы. Як пазней аказалася, гэта быў 30-гадовы жыхар Расійскай Федэрацыі і яго 20-гадовая сяброўка, якія зніклі яшчэ на пачатку мая.**

Андрэй Чэрнік, менавіта так завуць ахвяру, пастаянна пражываў у Нямеччыне і займаўся аўтабізнесам. У вёсцы Азёры Гродзенскага раёна ён набыў дом, які выкарыстоўваў як дачу. Менавіта ў Азёрах яго бачылі апошні раз. На пачатку мая ён прыехаў туды разам з сяброўкай, жыхаркай Гродна Вольгай Міхеевай. Што адбылося ў Азёрах, спрабуе высветліць следства.

На пачатку мая ў РАУС Гродзенскага раёна звярнуўся знаёмы Андрэя Чэрніка, які паведаміў аб знікненні свайго сябра. Падчас агляду дачы ў Азёрах следчыя знайшлі сляды крыві ў хаце і на падворку. Рэчы ў спальні былі параскіданыя. Аднак целы загінуўшых знойдзены толькі цяпер. На целе мужчыны былі дзве рубленыя раны, а кабета, па першаснай версіі экспертаў, была задушана.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## «Рупліўца Беларушчыны»

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны запрашае вучняў 9—11 класаў школ, гімназій, ліцэяў, студэнтаў ВНУ і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных устаноў да ўдзелу ў конкурсе на лепшы мастацкі ці публіцыстычны твор (эсэ, артыкул, верш, апавяданне), прысвечаны:

165-м угодкам з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага;
140-м угодкам паўстання 1863 г.;
110-м угодкам з дня нараджэння Максіма Гарэцкага;
120-м угодкам з дня нараджэння Язэпа Лёсіка;
100-м угодкам з дня нараджэння Наталлі Арсенневай.

Працы (1—3 старонкі друкаванага тэксту памерам А-4) выслаць да 15 верасня на адрас: 220005, г.Мінск, вул.Румянцава, 13, Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. На асобным лісце пазначце інфармацыю пра сябе: імя, прозвішча, месца вучобы, клас (курс), факультэт, група, адрас, тэлефон, сябрамі якіх грамадскіх арганізацый вы з'яўляецеся, ваш удзел у краязнаўчай рабоце.

Пераможцаў чакаюць прызы: магнітафон, кніга Ул.Арлова "Краіна Беларусь", відэа-, аўдыёкасеты, кнігі і інш.

**Сакратарыят ТБМ.**

## Удакладненне

*У загалоўку матэрыяла "Жахлівыя пахаванні ГУЛАГа ў Слуцку" ("Народная воля", 10.06) дапушчана недакладнасць. Гэтыя пахаванні адносяцца да часоў фашысцкай акупацыі Беларусі. Просім у чытачоў прабачэння!*

КОМПЬЮТЕР ДЛЯ БУХГАЛТЕРА !
*ВСЕГО ЗА 170 у.е.!!!*
**"DELL" Pentium-200 MMX, RAM 64 Mb, HDD 2100 Mb, CD-ROM Ethernet 100 Mbit, Sound, USB, Matrox 4 Mb, Монитор "DELL" 15"**
**Все компьютеры протестированы на программе "1С Бухгалтерия" вер.7**
*Тел. (017)-232-39-91, 202-10-15*
*г. Минск, ул. Я.Коласа, Д.3, 6-й этаж, ком. 60*
Limens
Оборудование б/у прошло тестированиеи предпродажную подготовку. Гарантия 6 месяцев.
Лиц. №16624 от 09.08.00 до 09.08.05

## Среда, 11 июня

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.50** Новости.
**06.10, 07.10** Доброе утро, Беларусь!
**08.10 "Поворот ключа".** Сериал (Россия). Заключительная серия.
**09.10 "72 часа".** Сериал (Международный Французский Канал).
**10.05** Телевизионный Дом кино. К 30-летию белорусской анимации. Часть 1-я.
**10.30** Здоровье. Тележурнал.
**11.00** Соло для дебютанта. Андрей Коломиец (актер).
**11.10 "Королева сердец".** Сериал (Колумбия — Венесуэла).
**12.15, 14.15** Добрый день, Беларусь!
**13.05 "Государственная граница".** Сериал. Фильм 1-й **"Мы наш, мы новый..."** ("Беларусьфильм"). 2-я серия.
**14.45** "Москва — Минск".
**15.15 "Вокруг шпионы".** Анимационный сериал (Международный Французский Канал).
**15.40** "Кто самый сильный", "Случай с бегемотом".
Мультфильмы.
**16.05** Приключенческий фильм **"Бронзовая птица"** ("Беларусьфильм"). Заключительная серия.
**17.10 "72 часа".** Сериал (Международный Французский Канал). Заключительная серия.
**18.20 "Золото Югры".** Сериал (Россия). 1-я серия.
**19.10 "Королева сердец".** Сериал (Колумбия — Венесуэла).
**20.10** Колыбельная.
**20.25** Панорама. Информационный канал.
**21.10** Новости региона.
**21.25** Футбол. Чемпионат Европы. Отборочный матч. Австрия - Беларусь. Прямая трансляция из Австрии.
**23.30** Третий тайм.
**23.40** Зона Х.
**00.05** Ночной эфир.

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.30** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50** "Не только о футболе". Спортивное обозрение.
**10.10** Комедия **"Серебряная свадьба".** 2-я серия. Россия.
**11.00** Снежный человек.
Русский след.
**11.30** Дисней-клуб: "Ллойд в космосе".
**16.00** Худ.фильм **"Наследницы".** 2-я серия. Россия.
**16.55** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.10** "Белорусы в Африке. Ралли по Сахаре". Часть 4-я. Заключительная.
**18.35** ОНТ представляет. Док.детектив "Без срока давности". "Взрослые игры".
**19.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**20.00** Время.
**21.00** Боевик **"Удар Лотоса: Загадка Сфинкса".** 1-я серия. Россия.
**22.05** Николай Басков, Лев Лещенко, Надежда Бабкина, Демис Руссос, "Бони М", "Баккара" в концерте "Мелодии и ритмы зарубежной эстрады по-русски".
**23.45** Продолжение концерта "Мелодии и ритмы зарубежной эстрады по-русски".

### РОССИЯ

**07.45** Телесериал **"Главные роли".**
**08.40** Телесериал **"Госпожа Победа".**
**09.40** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**16.55** Футбол. Чемпионат России. "Локомотив" (Москва) — "Спартак" (Москва). Прямая трансляция со стадиона "Локомотив".
**19.30** Местное время.
Вести-Москва.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**19.55** По просьбам зрителей. "Аншлаг". Старый Новый год".
**22.50** Премьера. "Говорит и показывает Михаил Задорнов".

### КУЛЬТУРА

**15.05** "Властелин оркестра. Евгений Мравинский".
Док.фильм.
**16.00** "Классики современного искусства". Гриша Брускин.
**16.25** "В поисках Троянской войны". Док.сериал (Великобритания). 6-я серия, заключительная. "Падение Трои".
**17.30, 23.00** Новости культуры.
**17.50** "Порядок слов". Книжные новости.
**17.55** "Отечество и судьбы". Династия Тиме.
**18.25** П.Чайковский. Концерт для скрипки с оркестром.
**19.00** "Помогите Телеку". Вечерние истории для самых маленьких.
**19.10 "На Муромской дорожке".** Худ.фильм ("Мосфильм"). Режиссер Ф.Петрухин.
**20.40** Блеф-клуб.
**21.20** Впервые на экране. **"Растиньяк".** Телесериал (Франция). Режиссер А.Тасма.
**23.25** "Кто там..." Авторская программа В.Верника.

### НТВ

**09.00** "Сегодня утром".
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** "Без рецепта". Доктор Бранд.
**10.00** "Кулинарный поединок. Россия — Италия".
**11.00, 16.00** "Сегодня" с Кириллом Поздняковым.
**14.35** Зачем мужчине красота? Ток-шоу "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Скорая помощь"** /США/.
**17.25** "Чистосердечное признание".
**18.00** "Сегодня" с Татьяной Митковой.
**18.35** Сериал **"Улицы разбитых фонарей. Испорченный телефон".**
**19.45** Сериал **"Дальнобойщики. Зеленые бригады".**
**21.00** "Страна и мир". Главные события дня.
**21.40** Золотой фонд НТВ. Фильм Е.Киселева. "Новейшая история. Президент Всея Руси", 3 серия.
**22.55** Сериал **"Улицы разбитых фонарей".**

### СТВ+RenTV

**06.30 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.55, 15.25** "Флинт — детектив во времени". Мультсериал.
**07.20** "Минщина. Люди, события, факты".
**07.30, 13.30, 16.00, 19.30, 22.30** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.00** "Завтрак с Инной Афанасьевой".
**08.05** "Минск и минчане".
**08.10** "Технология".
**08.20** Триллер **"Неустановленное лицо".** СССР.
**10.00** "Добро пожаловаться".
**10.15** Проект "Отражение": "Такси". Док.фильм.
**11.00** "Автопанорама".
**11.15** "Закон и криминал".
**11.30** "Народ против". Телеигра.
**12.00 "Вино любви".** Теленовелла.
**12.55 "Чисто по жизни".** Комедийный сериал.
**13.50 "Тайный знак".** Телесериал.
**15.00** "Человек-паук". Мультсериал.
**16.20** Кинороман **"Вечный зов",** 9-я серия.
**17.55** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.05** "Планета людей".
**18.20** "Отец". Док.фильм цикла "Общий дом".
**18.35 "Тайный знак".** Телесериал.
**19.55** "СТВ-спорт".
**20.10** "Турпоход".
**20.20** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.30** "Автопанорама".
**20.50** Комедия **"Дави на газ".** Дания.
**22.50** "Технология".
**23.00** "Новости СНГ".
**23.15** Проект "Отражение": "Такси". Док.фильм.
**00.00** Мюзикл **"Янки Дудль-денди".** США.

### 8 КАНАЛ

**17.30** "Бюргер" представляет "Мультпарад".
**17.50** Телемагазин.
**18.00 Худ.** фильм **"Идиот".**
**19.30** Сериал **"Семья для двоих".**
**20.00** Программа "Без протокола".
**20.40** К-видео "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Европа сегодня.
**21.30** Вестерн **"Отверженный".**

### ТВ ЦЕНТР

**05.00** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Смотрите на канале.
**08.05 "Разлученные".** Телесериал (Мексика).
**08.55** Москва смеется.
**09.25** Квадратные метры.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.15** Отдел "Х".
**11.45** Песочные часы.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Деррик".** Криминальный телесериал (Германия).
**14.20** Путь к себе.
**14.30** Очевидное — невероятное.
**15.00** Регионы:
прямая речь.
**15.30** Ступеньки.
**16.00 "На страже порядка".** Телесериал (Франция).
**17.15** Мода non-stop.
**17.50 "Загадочная женщина".** Телесериал (Венесуэла).
**18.35** Путь к себе.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00 "Двойная подстава".** Худ.фильм (Германия — Канада).
**21.40** Наша версия. Под грифом "Секретно".
**22.20** Времечко.
**22.50** Петровка, 38.
**23.10** 25-й час. События. Время московское.
**23.30** Серебряный диск.
**23.50 "По закону".** Телесериал (Великобритания).
**00.45** "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

### EUROSPORT

**09.30** Экстремальные виды спорта. Повтор.
**10.30** Футбол. Фестиваль молодежи. Тулон. Прямая трансляция. Колумбия-Китай. Повтор.
**12.00** Футбол. Фестиваль молодежи. Тулон. Прямая трансляция. Италия-Мексика. Повтор.
**13.30** Бокс. Повтор.
**15.00** Теннис. АТР. Первенство Лондонского королевского клуба. День 3. Прямая трансляция.
**18.00** Бокс. Повтор.
**19.00** Футбол. Фестиваль молодежи. Тулон. Прямая трансляция. Англия-Португалия.
**21.00** Футбол. Фестиваль молодежи. Тулон. Прямая трансляция. Аргентина-Япония.
**22.45** Конный спорт. Кубок наций. Лиссабон.
**23.45** Парусный спорт.
**00.15** Футбол. Евро 2004. Отборочные матчи. Спецобзор.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП "Красная звезда", 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 29 400 экз. Заказ № 732.